VII. КАСТРЫЧНІК—ЛІСТАПАД 1929 г. Кніжка 10-11 (30-31)




Першы Беларускі Месячнік Сельскай Гаспадаркі.

ЗЬМЕСТ:



Цана асобнага нумару 30 гр.

Беларуская Друкарня ім. Фр. Скарыны — Вільня, Завальная вул. № 6—10

# З практыкі для практыкі.

КАПЧЭНЬНЕ МЯСА. Зусім сьвежае — цёплае мяса капціць не рэкамэндуецца; мяса павінна астыць. Саліць мяса для капчэньня трэба так: на 100 ф. мяса кладзецца 10 ф. солі і ½ салетры. Гэтыя солі трэба перш зьмяшаць і націраць імі мяса, якое пасьля гэтага кладзецца ў кадкі на 8 дзён. Загатаўляецца рассол: бярэцца рэштку ад націраньня солі з салетраю, дабаўляецца крыху цукру, ¼ ф. простага і ⅛ індзейскага перцу, крыху тоўчаных вераскавых ягад і крыху лагуровага лісту. Усё гэта варыцца ў вядрэ вады. Потым да астуджанага адвару дабаўляецца 20 цыбулінак, парэзаных на 4 часткі і заліваецца мяса ў кадцы. Мяса ў рассоле трымаецца каля месяца — паўтара. Чапаць мяса ў рассоле ня трэба. Перад капчэньнем мяса, яго трэба прасушаць у працягу некалькі дзен на скразьняку.

Лепшым курывам для мяса лічацца вераскавы хвораст, надаючы мясу прыемны пах і смак. Агонь не павінен быць вялікі і акоркі трэба вешаць высока, пажадана ня ніжэй 6 аршын. Дыміць мяса трэба паступова, каб яно не пакрылася сажай.

Час капчэньня належыць ад таго, на што гаспадар думае ўжыць мяса: для варкі — менш, а для спажываньня ў сырым відзе—больш. Тут залежыць ад дымавой печы, топкі і памешканьня. У нас гаспадары часта пракапчваюць мяса за 7—10 дзень, што трэба лічыць няправільным. Лепшае мяса выходзіць пры капчэньні 1½ — 2 месяцаў. Тут гаспадар мусіць мець ужо навык. Для капчэньня мяса трэба выбіраць кускі роўнай велічыні.

Перахоўваць копчэнае мяса ня рэкамэндуецца на лёдзе, а лепш халоднае, прадуванае ветрам памешканьне.

# САХА

Першы Беларускі Месячнік Сельскай Гаспадаркі.

## Наша эміграцыя.

Беларуская прэса ў Польшчы да гэтага часу мала зьвяртала увагі на Беларускіх сялян і работнікаў на эміграцыі. Радыкальная наша прэса маўчыць, бо зусім замоўкла з прычынаў ад яе не залежачых, а іншыя беларускія газэты угадовага характару заняты зьмяшчэньнем аршынных артыкулаў пра нейкі уціск белцрускасьці на Усходзе, пра рай у незалежнай Літве, ды часамі і даносамі на нямілую ей радыкальную прэсу, ведаючы, што апошняя пазбаўлена магчымасьці на гэта рэагаваць. Доля сялян і работнікаў, закінутых на далёкую чужыну-нашу «незалежніцкую» прэсу зусім ня цікавіць, так, як ня цікавіць яе палажэньне працоўных масаў і тут, дома. А ў гэты час свабодна, без усялякіх перашкод, раз'яжджаюць па беларускім вёскам агэнты розных параходных таварыстваў, нашэптываючы нашаму земляробу пра шчасьлівае жыцьцё работнікаў у Амэрыцы, Францыі і іншых капіталістычных краёў заграніцы. Беларускі селянін і работнік, бачачы дома нэндзу, лёгка даецца пераканаць сябе шчодрымі абяцанкамі агэнтаў міжнароднага капіталу.

Пачынаецца падрыхтоўка да дарогі, ліквідуецца ўбогая гаспадарка і-вось наш селянін і работнік, спаліўшы за сабой масты павароту, цалком у распараджэньні агэнта. Ласка замежнага капіталу дае нашаму эмігранту хутка сябе адчуць. Апынуўшыся пры новых варунках жыцьця, няведаючы чужой мовы, ён робіцца об'ектам яшчэ больш жорсткага вызыску капіталу. Будучы на чужыне неарганізаваным, наш эмігрант ня можа і бараніцца ад гэтага вызыску. Думка аб павароце дамоў для шмат каго астаецца лятуценьнем.

Усе карэспандэнцыі, якія прыходзіцца чытаць ад эмігрантаў, гэта-роспач, жальба на горкую эмігрантскую долю. Адну з такіх карэспандэнцыяў, прысланую

з Аргэнтыны на імя рэдакцыі «Сахі» для прыкладу зьмяшчаем.

## Паважаная Рэдакцыя.

«Лічым за свой грамадзкі абавякак зьвярнуцца цераз пасрэдства Вашай паважанай часапісі да ўсіх тых нашых братоў, якія зьбіраюцца, або думаюць зьбірацца прыехаць да нас, дзе ім абяцаюць даць працу і перасьцерагчы іх ад гэтага рызыкоўнага шагу. Ведаем добра тыя варункі жыцьця, ад якіх яны думаюць уцякаць, ведаем пра іх эканамічнае палажэньне, бо самі год толькі, як пакінулі свой край у надзеі знайсьці, хаця на чужыне, кусок хлеба.

## Браты Сяляне і работнікі.

Як-бы Вам цяжка ня жылося на Бацькаўшчыне, які-бы уціск ад сваіх паноў не перажывалі, але кіньце думку ўцякаць з агня ды ў полымя, бо чужыя паны такія самыя, як і свае паны. Ідэя міжнароднага капіиалу—гэта вызыск нашага брата.

Год назад, будучы абаламучаны салодкімі абяцанкамі агэнта аднаго параходства, мы лёгкадумна распрадалі апошнія рэчы, заклалі зямлю, а некаторыя і зусім прадалі, каб дабрацца да абяцанай зямлі, дзе «даюць працу» і «добра плацяць».

Месяц з лішнім дарогі з чаканьнем на прыстані, марская хвароба, нарэшце бераг невядомай нам зямлі, што завецца Аргэнтына. Выйшлі на бераг, шукаем нашага агэнта, што абяцаў заразжа даць працу. Яго і сьлед прапаў. Шукаем працу самі. Ня ведаем мовы, ня можам ні з кім паразумецца, глядзяць на нас, як на заморскіх варятаў. Нарэшце спатыкаем беларусаў, якія ужо працуюць у Аргэнтыне. Першае спатканьнем са сваімі братамі з Віленшчыны і Наваградчыны прынесла нам мала радасьці.

Даведываемся, што тут ня толькі даюць працу, але яе трудна знайсьці, што яны шмат ча-

су пражылі ў Аргэнтыне, але ёсьць і паміж імі безпрацоўныя. Даведываемся, што работнікі ў Аргэнтыне думаюць толькі аб адным—сабраць грошы на дарогу дамоў, або у С.С С.Р. ці ўва Францыю.

Шукаем цэлымі месяцамі працу. Просьбы мала памагаюць, бо ніхто нас не разумее і, відаць, што ніхто і разумець ня вельмі думае. Усюды перапоўнена лішкам рабочых рук, якія, будучы не арганізованы, сабраны з усіх куткоў зямной кулі, канкурыруюць у прапанове сваей працы. Зразумела, што аргэнтынскі працадаўца гэта бачыць і карыстаецца...

Аб павароце дамоў, — хіба прыходзіцца пачакаць.

Спатыкалі эмігрантаў-работнікаў з другіх дзяржаваў Амэрыкі і са Злучаных Амэрыканскіх Штатаў. Усюды доля эміграната аднолькавая, усюды працадаўцы шалеюць на як найбольшы і хутчэйшы вызыск нашага брата...

Толькі цяпер зразумелі, што нас сьведама падлавілі. Дык, няхай гэтых некалькі нашых шчырых слоў паслужаць для нашых братоў на Бацькаўшчыне перасьцярогай.

Усе беларускія газэты просім перадрукаваць.

28.VII.1929 г. Група Беларускіх
эмігрантаў у Буэнос-Айрэсе

А вось і другі абразок эміграцкага жыцьця, бліжэй да нас, у ва Францыі, куды шмат едуць беларускіх сялян на землябробскія работы. На гэты раз перадрукоўваем хроніцкую запемку з „Ilustr. K. Codz.“ якога, хіба-ж не прыходзіцца папракнуць у лішняй чуласьці да долі эрігрантаў-сялян, які ў № ад 13 XI г.г. піша:

У Гоппэс... тут пад Парыжам. Аглядаў фэрмы. Усюды польскія работнікі (з Польшчы-увага рэдакцыі). Захадзіў да памешканьняў. Норы, нары, нэндза. Была нядзеля перад 1-га мая. У папалудні зьбіраліся з работы апэцканыя у гной-гной мусяць раскідаваць, у поле ехаць-няхай бы ня

спробвалі-не атрымалі-б ежы, не атрымалі б платы. Застаў двух канунiстычных агітатараў. Праца для іх лёгкая. Зразумеў словы консула: «абшары (з эмігрантамі — увага рэд) нзўкол Парыжа страчаны для Польшчы». Гутарылі доўга. Узрок мой сягнуў на вакно. Што гэта Мутнае, забруджана.) Шыбаў ня было, толькі драцяная сетка памазана клеям, як у турме. Для чаго? Для таго, што такое вакно таней на тры франкі, а зімой марозы 17 градусаў.

Няведамы хранікёр «Ilustr. Kur Codz.», накінуўшы гэты сумны, сьціскаючы кроў у жылах абразок з эміграндзкага жыцьця у Францыі, устрымаўся запытацца, дзе выхад з гэтага палажэньня.

Устрымаемся і мы.

---

# Колькасьць корму для аднэй каровы на зіму.

Надыходзіць зіма. Скаціна пераводзіцца з зялёнае пашы на сухое зімовае утрыманьне. Можна чакаць такіх самых страшных марозаў, якія мы пераэкылі ўжо ў мінулым годзе, а некаторыя мэтэрэолёгі, у сувязі з пашырэньнем сонечных цёмных плям, прарочаць нам на гэту зіму яшчэ больш страшныя марозы.

Ня будзем тут разьбірацца, на сколькі праўдападобны гэтыя прароцтвы, бо мэтэрэолёгія яшчэ навука зусім маладая і можа зрабіць абмылкі ў сваіх мяркаваньнях, але сутнасьць справы ад гэтага мала мяняецца. Селяніну трэба пракарміць сваю кароўку ў працягу абжорлівай зімы. Звычайнае зьявішча для нашага дробнага земляроба, што корму ў яго гаспадарцы заўсёды бракуе і пад вясну ён лезе на страху па салому, з якой чакае зялёнае травы, або плаціць шалёныя цэны за сена і салому. Здаецца, што цяпер, калі корм ў параўнаньні з вясной таней, дык аб гэтым мы і мусім цяпер паклапаціцца. Для гэтага нам трэба ведаць, колькі патрэбна нам корму для нашае жывёлы. У гэтым нарысе, мы вылічым, колькі патрабуе рознага корму наша карова за цэлы зімовы пэрыяд.

Патрэбная колькасьць корму для скаціны залежыць: 1) ад працягу зімы, 2) ад жывой вагі жывёлы, 3) ад малочнасьці каровы і 4) ад будовы хлява, бо ў цёплым хляве жывёла патрабуе менш корму.

У нас на Беларусі пэрыяд хлеўнага утрыманьня жывёлы бывае прыблізна роўны 180 дзён—з 1-га лістапада на 1-га мая. Але часта трапляецца, што у першых днях мая скаціна на пастбішчы корму яшчэ не знаходзіць, дык гэты пэрыяд прыходзіцца павялічыць да 200 дзён.

Вызначыў дзенную дачу корму карове, лёгка вызначыць неабходнае колькасьць корму і за зіму, для чаго трэба дзенную дачу перамножыць на 200.

**Кармавая дача з добраякаснага сена.** аднэй карове сярэдняй вагі патрэбна 20 ф., а за 200 дней — 100 пуд.

**Кармавая дача з саломы.** Калі мы будзем карміць карову аднэй саломай (яравой) дык яе патрабуецца для тэй жа каровы 30 ф. у дзень, ці 150 пуд. за зіму. Трэба адзначыць, што карменьне каровы аднэй саломай лічыцца нятолькі не пажаданым, але і шкодным, бо трыбух каровы ня здолее перsuccessful атравіць такую колькасьць саломы.

**Кармавая дача з канюшыны.** Каб мы кармілі карову аднэй канюшынай, дык для узятай для прыкладу нашай карове патрабавалася-б 18 ф. у дзень, ці за зіму 90 пудоў.

**Дача кармавой сумязі.** Мы разглядзелі спосаб вылічэньня корму аднэй карове сярэдняе вагі (20 пуд) у тых выпадках, калі-б мы кармілі яе толькі адным кормам. Гэтага на практыцы бадай ня бывае, і гэта лічыцца не пажаданым. Гаспадар наш корміць сваю скаціну большаю часткаю сумязьзю з кормаў, што маюцца у гаспадарцы. І тут ня так трудна вырахаваць патрэбную колькасьць корму для каровы на зіму. Калі ў гаспадар ы маецца шмат яравой саломы, а мала сена і канюшыны, дык даецца больш саломы і менш таго корму, якога менш у гаспадарцы. Напрыклад, такая дача выглядала-б так:

| | | | |
|---|---|---|---|
| Яравой саломы | 15 ф. у дзень | × 200=75 | пудоў. |
| Сена . . . . | 6 „ | × 200=30 | пудоў. |
| Канюшына . . | 4 „ | 200=20 | пудоў. |
| | Разам | 125 | пудоў. |

Тут могуць быць розныя камбінацыі, якіх усіх у гэтым нарысе немагчыма разгледзіць. Калі сена і канюшына дарагі, дык іх можна замяніць вотрубямі, жмахамі, бульбай, буракамі і г. д., прытрымліваючыся таго правіла, што нашае карове усё-ж такі трэба даваць абыймістых кормаў каля 15 ф. ў дзень.

**Прадукцыйны корм.** Мы разгледзілі кармавую дзенную дачу карове для патрыманьня яе жыцьця. Калі ж карова дае малако, дык пры вызначэньні колькасьці корму бярэцца і гэта пад увагу: На кожныя 3 ф. малака ў дзень дабаўляецца 1 ф. вотрубей (ашакоў), ці адзін ф. аўса, ці $2^1/_2$ ф. канюшыны, або іншых кармоў у суадказнай коль-

касьці па нормам, памятаючы, што наша карова для патрыманьня жыцьця патрабуе 8 корм. адзінак, для вырабу кожных 3 ф. малака — 1 адзінку і для росту прыплоду ў арганізьме—1-2 адзінкі.

Апрача гэтага, яшчэ неабходна падсьцілка, прыблізна 10 ф. у дзень, ці на год каля 50 пудоў.

Ведаючы гэтыя патрэбнасьці нашае каровы ў корме, мы можам разьлічыць, ці хопіць у нас загатоўлеких删 кармоў Для гэтага трэба выясьніць запасы іх у гаспадарцы, Яшчэ летам і ўвосень пры возцы сена, канюшыны, саломы неабходна лічыць вазы. копы, пераводзячы іх на вагу, а лепш яшчэ ўзважваць. Калі гэтага не рабілася, трэба цяпер вызначыць іх вагу па наступнай прыблізнай табліцы:

1 куб саж зьлёгшагася сена важыць 60 пуд., канюшы 70 пуд., яравой саломы 40 пуд., азімай 35 пуд.

Вядома, гэтыя дадзеныя прыблізныя, лепш было-б выразаць куб. саж. і взважыць, а потым абмерам усяго сена. вылічыць вагу ўсяго корму у гаспадарцы.

Калі корму ня хапае, гаспадар мусіць яго купіць. Паўстае пытаньне, які корм купляць? Каб рашыць гэтае пытаньне, трэба браць пад увагу шмат акалічнасьцяў, як напр: цану на корм, яго спажыўную вартасьць і іншыя. Бывае такія выпадкі, што гаспадар мае добры збыт малака, ці наогул малочных прадуктоў; ён зацікаўлены ў падняцьці малочнасьці сваей каровы. Зразумела, што ён мусіць купіць больш спажыўныя (сільныя) кармавыя прадукты, якімі часта нават кармленьне каровы абыходзіц таньней. Трэба думаць, што сёлета, асабліва цяпер, калі цэны на збожжа стаяць нізкія, можа быць выгадным дадаць да грубых (абыймістых) кармоў сільныя, чым зьменшым патрэбнасьць у першых· Тут гаспадар, замяняючы адны кармовыя прадукты другімі, павінен знаць іх кармавую вартасьць.

На падставе шмат лічэбных досьледаў па кармленьню жывёлаў, шляхам параўнаньня усіх кармаў з кармовай адзінкай (кармовую адзінку ўмоўна ўзялі 1 ф. сумязі рознае мукі) даведаліся, што:

| | | | |
|---|---|---|---|
| 1 ф. рознае мукі | =1 | карм. | адз. |
| 1 ф. розных вотрубей | 1 | „ | „ |
| 1 ф. аўса „ | 1 | „ | „ |
| 3 фунты луговага сена | 1 | „ | „ |
| 4 ф. балотнага сена „ | 1 | „ | „ |
| 2—2$^1/_2$ ф. канюшыны | 1 | „ | „ |
| 3—4 ф. аўсянай мякіны | 1 | „ | „ |
| 4—5 ф. ржаной мякіны | 1 | „ | „ |
| 4—5 ф. яравой саломы | 1 | „ | „ |
| 5—6 ф. азімай саломы | 1 | „ | „ |
| 8—10 ф. кармавых бур. | 1 | „ | „ |

| | | | |
|---|---|---|---|
| 10—12 ф. кармавой рэпы | 1 | „ | „ |
| 8 ф. морквы „ | 1 | „ | „ |
| 5—6 ф. бульбы „ | 1 | „ | „ |

Гэта значыць, што 1 фунт рознае мукі мае прыблізна такую самую спажыўную сілу, як 3 ф. луговага сена, 8 ф. морквы, 5—6 ф. бульбы.

Для больш правільнага скарыстаньня гэтых кормаў, трэба прытрымлівацца пры замене адных кармоў на другія вядомай граніцы. П.

# Падвей у каня.

Падвей у каня найчасьцей здараецца ад застуды і раптоўнага абніжэньня $t^0$. Пад уплывам холаду або моцнай цягі паветра, дзякуючы якой лёгка могуць застудзіцца ў каня праз скуру мускулы (асабліва у паясьніцы), раптам здараецца папсаваньне ў яго руху і нават паралюш усяго заду. Найбольш хварэюць на падвей коні цяжкія, прызвычаеныя да штодзеннае цяжкае працы, і добра ўтрыманыя, сытыя, калі яны праз некалькі дзён змушаны прастаяць у цеснай стайні бяз працы і калі пры гэтым яны сытна яшчэ кормяцца. А вядома, што ў гаспадарцы досыць часта здараецца, калі конь, які прызвычаены да штодзеннае працы і якога гаспадар добра заўсёды корміць, застаецца 2-3 дні дома бяз працы, і калі ў гэтыя дні ён адтрымоўвае тую самую колькасьць аўса, што і ў звычайны працоўны дзень. Асабліва гэта часта здараецца пад час якога-колечы сьвята або калі конь доўга стаіць у стайні з прычыны кульганьня.

Пазнаецца хвароба досыць лёгка. Калі вывесьці падвеянага каня са стаайні або запрэгчы яго, то ён зараз-жа або праз ½ гадзіны, пачне валачыць заднія ногі, хістацца і нават садзіцца на зад або пачне моцна кульгаць на каторую нагу. Рухі такога падвеянага каня робяцца напруджаныя, і ён часта зусім ня можа нават утрымацца на нагах, валіцца на зямлю і без дапамогі ня можа сам падняцца. Лежачы на зямлі, гэткі конь сіліцца паднімацца і прабуе стаць на ногі, цяжка дыхае, вельмі непакоіцца, пацее і робіцца ўвесь мокры ад поту. Мускулы ў яго на задніх нагах, асабліва ў паясьніцы і месцамі ля хваста, робяцца напруджанымі, цьвёрдымі і балючымі, а скура ў гэтых мясцох робіцца гарачаю.

Галоўнаю адзнакаю пры падвею служыць м а ч а, якая пры гэтай хваробе робіцца ў каня цёмнаю, нават чорнаю, нібы чорнае піва; апрача таго, яна з вялікаю труднасьцю адыходзіць або і зусім затрымоўваецца. Аднак, такі конь есьць і п'е без усялякіх зьмен. Гарачкі пры гэтым у яго

амаль што нябывае і толькі часамі тэмпэратура падскочыць да 39-40°C.

Часамі хвароба праз які дзень-другі сама сабою мінаецца. А пры належным лячэньні нават і больш цяжкія выпадкі хваробы памысна канчаюцца праз 5—7 дзён, хоць потым, праўда, і застанецца ў перахварэўшага каня надоўга яшчэ нахіл да ўзнаўленьня гэтае хваробы. І толькі ў цяжэйшых выпадках, нават часамі пасьля значнага палепшаньня, конь можа застацца яшчэ на доўгі час напоўспаралізаваным на зад.

Калі-ж хвароба пагаршаецца, то хісткасьць заду у каня пераходзіць у поўны паралюш, тады жывёла зусім звальваецца з ног і ня можа сама падняцца, часта толькі паднімае галаву і паглядае сабе на крыж, стогне ад болю, страшэнна не пакоіцца і б'ецца галавою аб зямлю, абіваючы сабе скроню і іншыя часткі на галаве; з часам хворая дыхае ўсё цяжэй і цяжэй, на целе ў яе знаходзяцца так зв. пролежні, прытомнасьць у яе траціцца, і жывёла праз 4—5 дзён памірае. Наогул, з усіх захварэўшых на падвей коняй, не ачуньвае і памірае процантаў 20—40. Асабліва непамыснаю адзнакаю трэба лічыць, калі жывёла зусім ня можа трымацца на нагах, калі яе прыхндзіцца паднімаць і патрымоўваць.

Лячэньне. Падвеянага каня, які зваліцца з ног дзенебудзь у дарозе, патрэбна зара-жа перавесьці на колах альбо на санках да дому, палажыць яго на мягкай падсьцілцы ў цёплым хляве і ўкрыць чым-колечы цёплым. Калі праз які 24 гадзіны ад пачатку хваробы конь сам не падымаецца на ногі, тады трэба папрабаваць падняць яго з дапамогаю якога-колечы паса альбо на мяшкох, умацаваўшы вяроўкамі за моцную бэльку; пры гэтым добраю адзнакаю будзе лічыцца, калі конь сам пакрысе будзе апірацца нагамі аб зямлю. Часта праз кароткі час пасьля такога завешваньня хвораму робіцца лепш. Гэткую спробу завешваньня каня патрэбна рабіць разы 2 на дзень.

Але калі завешаны конь зусім няможа абаперціся на ногі, то ня варта яго часта і надоўга завешваць, каб ён часамі не задыхнуўся, калі ўсім цяжарам сваім завісьне на пасе і наваліцца ня яго. Тады застаецца толькі такога хворага трымаць на мягкай подсьцілцы і праз кожныя 3-4 гадзіны пераварочваць з аднаго боку на другі, каб не параблліся ў яго на скуры пролежні ад доўгага ляжаньня на адным боку.

Карміць падвеянага каня трэба толькі пойлам з высевак і з мукі, сенам або зялёнаю травою і зусім не даваць яму аўса. Вады піць трэба даваць хвораму як мага болей і часьцей.

Усё цела хворага карысна хоць раз на дзень расьці-

рацьсаламянымі вехцікамі або шчоткамі, зьлёгку скрапіўшы перад тым яго скуру (асабліва спаралізаваныя месцы) камфоравым сьпірытусам. Вельмі карысна рабіць на ўсю крыжавіну 2-3 разы на дзень прыгрэўку альбо нават пас- тавіць гарчышнік. Калі ў каня заўважваецца затрыманьне калу, то яго дастаюць з задняе кішкі рукою і робяць леватыну з летняе вады; у сярэдзіну-ж даюць 1 ф. глаўбэрскай солі. Вельмі карысна пры цадвеі даваць каню 2-3 разы на дзень звычайную соду па 3 4 лыжкі за 1 раз з вадою, каб павялічыць у яго шчолакаватасьць крыві.

Калі ў хворага назіраецца затрыманьне мачы, то яе прабуюць выпусьціць праз катэтар, або, уводзячы руку праз заднюю кішку, націскаюць на мачавы пузыр. Найлепш зьвярнуцца да вэтэрынара, каб выпусьціць мачу з дапамогаю катэтара, а разам з тым, каб зрабіць падскурны ўкол арэкаліну ці пілёкарпіну.

Калі ў захварэўшага заўважваецца некаторае палепшаньне яго стану здароўя, то не перастаюць рабіць старанныя расьціраньні скуры і праз некатары час пачынаюць пакрысе праводжваць яго, пакуль, нарэшце, нельга будзе браць яго спачатку ў лёгкую, а потым і ў звычайнтю працу.

Дацэнт Беларускай Дзяржаўнай
Акадэміі, Сельскае Гаспадаркі.
*І. Серада.*

---

# Дагляд за дуплаватымі пладавымі дрэвамі

Дупло ў дрэве ствараецца дзякуючы дзеяньням вады і паветра на трэшчыну ў дрэве. Дзеля гэтага трэба, як толькі заўважыцца трэшчына, або невялікае дупло, іх добра, аж да здаровай дрэвасіны прачасьціць, потым увязаць туга шпунт з дрэва і канец яго з дрэвясінай навокал зрэзаць, а раму замазаць смалой, або густой масьлянай фарбай. Пры ўжываньні смалы як замазкі, трэба асьцерагацца, каб не замазаць кары, бо смала шкодна дзеяць на жывыя часткі яе. Дзеля гэтага смалой смазваюць толькі рану, пакідаючы $^1/_4$ вяр. каля кары не смазанай. Лепш ужываць масьляную фарбу, якая ня шкодзіць і карэ.

Калі-ж дупло ўжо вялікае, дык яго забіваюць ня дрэўляным шпунтам, а цэмэнтам, ці гіпсам, а паверх яго смазваюць сумязью з смалы і попелу (роўныя часткі). Каб не пападала вада да так замазанага дупла, пажаданна паверх яго зрабіць пакрышку з дошкі або цынкавай бляхі. Пры такім даглядзе за дуплаватымі дрэвамі, яны могуць жыць і даваць плады нароўні са здаровымі дрэвамі.

# Хатні грыб.

З усіх грыбоў, асабліва шкодных для драўляных будынкаў і драўляных частак камяніц, зьяўляецца хатні грыб. Ён заводзіцца толькі на мёртвай драўніне. Гэты грыб пашыраецца хутка, пераходзячы з аднаго дому ў другі. Грыбок заводзіцца на ўсякай драўніне — сасновай, яловай, дубовай і інш.

Пры спрыяючых умовах хатні грыб можа жыць на паперы, якою выклеена хата, дыванох, архіўных кнігах і г.д.

Апрача непасрэдных шкод, хатні грыб прыносіць яшчэ і другія шкоды: пашырае вільгаць, а ў часе пасьпяваньня гэты грыб дае шмат заароднікаў, якія спрыяюць усякай хваробе. Боль галавы, або трасца часта здараюцца ад жыцьця ў хатах з грыбам. Яшчэ кажуць, што зароднікі хатняга грыба спрыяюць хваробе, якая завецца ракам.

З хатнім грыбам трэба весьці рашучаю барацьбу. Адзнакі прысутнасьці хатняга грыба на драўніне такія: драўніна прымае чырвона-буры колер, трэскаецца у розных напрамках, пры разламваньні крышыцца на кавалкі, якія маюць больш-менш правільную форму. На трэшчынах знаходзяцца тонкія ніткі, якія выпаўзаюць на верх у выглядзе белай ваты, з кроплямі вільгаці на сваёй паверхні. Некаторыя з гэтых нітак разрастаюцца, робяцца таўшчынёю з малы палец і даўжынёю ў 2-3 мэтры. Калі гэтыя ніткі пяройдуць на здаровую драўніну, то зараз-жа пачынаюць псаваць яе. Самай характэрнай адзнакай хатняга грыба зьяўляецца ўтаўшчэньне на нітках.

Грыбня хатняга грыба ў маладым узросьце прыемна пахне, але калі пачне гніць, то тады выяўляюцца ўсе шкодныя для здароўя адзнакі.

Зьяўленьне грыба цяжка заўважыць. Добра спрыяюць яго разьвіцьцю вільгаць і прыблізна такая цяплыня, якая бывае ў хаце. На сухой драўніне, якая знаходзіцца ў сухім памяшчэньні, грыб ніколі не заводзіцца. Пры нізкай тэмпэратуры ($5^0$ марозу) і пры 40 цяплыні хатні грыб гіне.

Пашыраецца хатні грыб хутка, шляхам заносу сваіх зароднікаў у спрыяючыя месцы, а таксама і пераносам хворай драўніны са складаў і старых будынкаў, якія заражаны гэтым грыбам.

Прадасьцярогі і меры барацьбы з хатнім грыбам.

1. Для пабудовы будынкаў трэба браць сухі матэр'ял.

2. Будынкі трэба часта праветрываць, каб ня было вільгаці.

3. Пры рамонце будынкаў неабходна зараз-жа спаліць усе часткі драўніны, якія заражаны хатнім грыбам.

4. Драўляны падмурак пад будынак трэба рабіць з сухога матэрыялу, які добра вымазаць дзёгцем.

5. Ніз падрубы трэба засыпаць пяском або жвірам.
6. Не мачыць часта падлогу.

Калі-ж, ня гледзячы на прадасьцярогі, завядзецца хатні грыб, то барацьба з ім складаецца з таго, каб зьнішчыць грыбню і грыбныя ніткі. А для гэтага трэба прасушыць памяшчэньне і загніўшыя месцы, добра абмазаць дзёгцем або крэозотам, а пасьля гэтага шчыліны заліць цэмэнтам.

**А. Новікаў.**

# Парады для пачынаючага пчаляра.

## Дагляд за пчоламі зімой.

Зімой пчолы дастаўляюць пчаляру мала працы і дакукі, раз для зімоўкі іх выбрана адпаведнае мейсца.

Каб пчолы маглі добра перазімаваць, яны мусяць мець поўны спакой. Ня варта дапускаць да пчальніка дамовых жывёл і нават людзі без патрэбы не павінны хадзіць каля вульляў, асабліва пры замёрзлай зямлі, калі пчолы ў клубкох страсваюцца, разыходзяцца ад кучы і лёгка мёрзнуць. Па гэтай самай прычыне ня трэба ставіць вульлі на зімойку каля дарог, дзе праяжджаюць вазы. У часе марозу да пчальніка ляпей зусім не заходзіць, каб іх ня трывожыць.

Ня шкодзіць у часе марозу асьцярожна, не палохаючы пчол, засыпаць сьнегам ляткі. Як настане адліга і сьнег каля ляткоў ачысьціцца, выбраць з ляткоў прапаўшых пчолаў. Такую ачыстку трэба рабіць пры кожнай адлізе.

Часам можна назіраць, што навет у часе марозаў пчолы вылятаюць з вульля і валюцца на сьнег, дзе і прападаюць; прычынай гэтаму бывае найчасьцей занадта высокая тэмпэратура ў вульлі, што прымушае пчол шукаць вады па за вульлём Парадзіць тут можна павялічэньнем гнязда цэраз устаўку хаця-б пустой вышчыны, што можна бязшкодна зрабіць у часе адлігі.

Калі-б гняздо было за надта цёпла ахутана саломай, дык трэба гэтае ахутваньне паменшыць. Праўда, тут пчаляр мусіць браць пад увагу, што ў нас бываюць і сільныя маразы, ад якіх таксама пчолы могуць згінуць.

Можна часта заўважыць, як пчолаў палохаюць дзікія птушкі. Некатарыя з іх, як напрыклад: жоўны, дзятлы і інныя выдзюўбаюць на вульлі дзюркі і цэраз іх дастаюць сабе ў спажыву пчолаў з гнязда; некатарыя, як сікоркі, вабяць пчол стуканьнем дзюбкамі аб вульлей каля лятка, каб абмануўшымі пчоламі пажывіцца. Такіх птушак пчаляр мусіць палохаць, ставячы на пчальніку чучалы,

Мышы таксама часта любяць далазіць да пчол, дзеля гэтага вялізныя лягкі трэба абцягнуць калючым дротам і каля лятка пасыпаць затручаную (мыш'яком) пшаніцу, ад якой мышы будуць гінуць. Саломеныя вульлі добра будзе, калі абставіць вераскавымі галінкамі

Палохаць пчол могуць і галінкі дрэва, якое ў часе ветра ўдарае па вульлі, дзля чаго ня трэба на зіму ставіць вульлі паміж дрэў, з якіх часта валіцца сьнег.

Пад канец зімы, калі бываюць пагодныя дні і сонечныя праменьні, заглядаваюць да вульля, пчолы могуць вылятаць да часу на двор і гінуць. Каб ухіліць гэту небясьпеку, трэба застаўляць лягкі дашчэчкамі, каб не дапусьціць да вульля праменьняў.

Калі часам пчаляр дапускае думку, што яго пчолам ня хапае спажывы на зіму, што трэба лічыць ненармальным зьявішчам, да якой прычыніўся сам пчаляр, трэба ў адлігу прыслухацца да вульля, як там адзываюцца пчолы. Пры стуканьні аб вулей каля лятка, галодныя пчолы адзываюцца слаба і голас іх падобны да шораху лісьця. Пры стуканьні галодныя пчолы пачынаюць выходзіць на дошчэчку перад вылётам і аслабленымі валяцца на зямлю. Такіх пчол трэба зараз-жа ратаваць падкормкай сыропам з цукрам.

Як падкармліваць слабых пчол зімой — будзе гутарка ў насгупных намарох.

N.

# Гаспадарчыя парады.

Пытаньне. 1) Я сею лубін, які заворваю пад жыта. Глеба пяшчаная. Думую ўносіць штучнае ўгнаеньне. Парадзьце, якое ўгнаеньне тут уносіць і калі: ці непасрэдна пад жыта пасьля заворкі лубіну, ці лепш перш унесьці пад лубін?

2) Як лячыць бугры на карове? Г. Кугач.

Адказ. 1) Трэба думаць, што ўгнаеньне, паложанае пад лубін, прычыніцца да больш буйнага яго росту і пасьля заворкі лубіну, глеба абагаціцца больш ня толькі арганічнай масай, але і мінэральнай, якую добры ўраджай лубіну больш выцяне з глебы з трудна спажываемай формы для другіх расьлін. Гэту думку пацьвярджаюць і некаторыя досьледы.

Пад лубін рэкамэндуецца класьці фосфаравыя ўгнаеньні (тамасоўка або супэрфасфат) і паташовыя (каініт або паташвая (калійная соль). Тамасоўка і каініт — угнаеньні будуць адпаведнымі для лубіну, асабліва, калі ён пойдзе для заворкі пад азіміну, або ярыну.

2) З Вашага пытаньня трудна зразумець, што захвароба—ўгры на карове. Калі яны зьявіліся яд адкладкі яек аваднёў, дык цяпер трэба выціскаць пальцамі гусянёў авадня. У часе адкладкі аваднямі яек на скуры жывёлы, апошнюю рэкамэндуецца смазваць чым нібудзь сьмярдзючым.

Пытаньне. Уносячы штучнае ўгнаеняне, я кожны раз раблю досьледы, на падставе якіх разважаю, ці патрэбнаякое ўгнаеньне маей глебе.

Але часам бывае, што досьледаў паставіць не пасьпееш, дык хацеў-бы ведаць, ці ёсьць прыкметы, па якіх можна-б было судзіць хаця прыблізна аб патрэбнасьці глебы ў угнаеньні і якім? А. С.

Адказ. Уносіць штучнае ўгнаеньне, не запытаўшыся ў самой глебы, ці яна яго патрабуе, а калі патрабуе, дык якога — бывае часта рызыкоўна. Бязумоўна, што даведацца аб патрэбнасьці глебы ў угнаеньні лепш пры дапамозе досьледаў, што бывае клапатліва і займае дужа часу. Існуюць дасьледчыя станцыі, якія хэмічным шляхам даведваюцца аб патрэбнасьці глебы ў угнаеньні, але гэта каштуе дорага.

Прыглядваючыся да расьліннасьці ў розных часох яе жыцьця, можа некаторыя дадзеныя нам даць сама расьлінка. Так, цёмныя, буйныя і шпарка растучыя расьлінкі гавораць аб багацтве глебы ўсімі складнікамі спажывы, а ў першую чаргу — аб прысутнасьці азотавых соляў. Буйны колас з добра набітым зярном кажа, што глеба мае ў дастатку фосфаравых соляў. Калі на ніве некалькі гадоў сеяліся каласавыя расьлінкі, дык трэба думаць, што глеба патрабуе фосфару; калі-ж ніва засявалася бабовымі (матыльковымі, дык у глебе маецца азоту, а калі ніве была занята некаторы час лёнам, бульбай і буракамі, дык трэба чакаць, што яно абясьсілена паташовымі салямі.

Больш характэрныя прыкметы расьлінасьць дае пры браку вапны, калі ніва парастае шчаўлем, хвашчамі, мятліцай, браткамі і іншамі.

Багатыя-ж вапнай глебы пакрыты матыльковай дзікай расьліннасьцяй, як напр.: дзятлівінай, гарошкам, вічкай і інш.

Усе гэтыя прыкметы, трэба сказаць, павярховыя і безабмылкова паказваць на прысутнасьць таго ці іншага ўгнаеньня ня могуць, а можна імі карыстацца асьцярожна.

Пытаньне. Як змагацца з кілай на капусьце.

Антон Рагач.

Адказ. Кіла адносіцца да грыбных хвароб. Хваробу гэту можна знайсьці амаль на кожным капусініку. У хворае капусты нарастаюць жаўлакі на каранёх.

Каб пасьпешна змагацца з кілай на капусьце, трэба

садзіць расаду капусты са здаровымі каранямі, бяз усялякіх жалвачкоў на іх. Таксама ня трэба садзіць капусту на адным і тым-жа мейсцы менш як праз чатыры гады. Хворыя качаны капусты, як толькі будзе прыкмечана хвароба, трэба выконваць з каранямі і паліць на агні. Тое месца, дзе яны расьлі, трэба пасыпаць сьвежа адгашанай вапнай.

---

## Наша хроніка.

**Новыя беларускія кніжкі.** Вышлі з друку і прадаюцца ў-ва ўсіх беларускіх кнігарнях: 1) „Ад утопіі да навукі“ — Энгэльса; 2) „Змагары за ідэю“ — Тагабочны; 3) „Марксізм і нацыянальнае пытаньне — І. С.; 4) Аснаўныя пытаньні Марксізму — Плеханава. Знаходзяцца ў друку: 1) Барацьба клясаў ў 1848-50 гад. у Францыі — К. Маркса і 2) Найміты сярэдніх вякоў — Каўтскага.

**Новыя газэты.** Пачала выдавацца „Беларуская Газэта“. № 1 і 3 канфіскаваны па загаду Гарадзкога Старасты, а № 2 выйшаў на палову чыстым. Далейшы лёс „Беларускае Газэты“ — хіба-ж аднолькавы з рештай беларускіх газэт радыкальнага характару — прымусовае маўчаньне.

**„Беларуская Крыніца“ гражданкай.** Пачала выходзіць „Беларуская Крыніца“ разам з лацінкай і гражданкай. Першыя нумары „Б. К.“ заядла змагаюцца з камунізмам і беларускім радыкальным рухам. Артыкулы з весткамі даволі сумліўнага паходжаньня пахнуць даносамі. Газэта запоўнена аграмаднымі артыкуламі аб неякім уціску беларускасьці на Усходзе і аб раю ў фашыстоўскай „незалежнай“ Літве. Працу паслоў Беларускага Сялянска-Работніцкага Клюбу называе камунізуючай.

Як відаць „Бел.Кр.“ падабаецца толькі тая праца, „якой“ захоплены паслы-сельсаюзьнікі і хадэкі, гэта значыць—акуратнае атрымліваньне пасольскіх дыэт і хаваньне сваей асобы ад сваіх выбаршчыкаў, якія да гэтага часу ня мелі „шчасьця“ паглядзець, каго яны выбралі „бараніць“ сябе.

**Першая кніжка пасьля Лемантара Любіч-Маеўскага.** Зараз за лемантаром Любіч-Маеўскага, які беларуская прэса і грамадзянства спаткала з абурэньнем, выйшла і першая кніжка пасьля лемантара таго-ж аўтара. Быццам гэту кніжку, як і скандальны лемантар, маецца быць падручнікам для беларускіх пачатковых школ. Брашура Паляшука „Некалькі ўваг“ аб гэтым лемантары канфіскавана і канфіската зацьверджана судом. Як лемантар, так і першая кніжка пасьля яго — гэта ёсьць палянізаваньне беларусаў.

**Ажыўленьне працы Беласточчыны.** У апошнія часы дзякуючы высілкам грамадзянства, перадусім работнікаў, Беласточчына шпарка разьвівае працу на культурна-гаспадарчае ніве. Таварыства „Рунь", адкрыла ў сябе кнігарню, адкрывае кнігарню ў Вільні і другіх мясцох Зах. Беларусі. „Рунь" пачынае выдаваць кніжкі, брашуры, чым за хуткі час папярэдзіла Беларускае Выдавецкае Т-ва, якое спакойна сьпіць на санацыйным ложку.

У Беластоку гурток работнікаў пачынае рыхтавацца да адкрыцьця Беларускага Банку на каапэратыўных прынцыпах, на манер Беларускага Банку ў Вільні.

**Зьмена памешканьня.** Таварыства Бел. Школы (Галоўная Управа), Беларускі Каапэратыўны Банк і рэдакцыя „Саха" перанесены з Віленскай вуліцы № 8 на Гданскую 1 — 5.

**Гарэлачны прагрэс.** Галоўны Статыстычны Аддзел у Польшчы падае, што ўжываньне гарэлкі ў нас ня гледзячы на ўсе крызысы, шпарка пашыраецца. У мінулым годзе выпілі гарэлкі на 618.000.000 злотаў.

## З Усходняе Беларусі

**Усебеларуская сельска-гаспадарчая выстаўка.** У Менску ідзе праца шпаркім тэмпам па падрыхтоўцы усебеларускае выстаўкі сельскае гаспадаркі і прамысловасьці. Цэнтральныя ўправы прафсаюзаў бяруць на сябе абавязкі арганізаваць экскурсіі з 4 тысяч працоўных з розных куткоў Беларусі. Экскурсанты будуць карыстацца ільготай па праезьдзе жалезнай дарогай. У Менску экскурсанты будуць разьмешчаны ў памешканьнях клюбаў і іншых спэцыяльна прыгатаваных для гэтага памешканьнях. Выстаўка пакажа дасягненьні сацыялістычнага будаўніцтва Беларусі. Экспанаты будуць выстаўлены з усіх галін народнае гаспадаркі.

**Саўгасы і калгасы на балотах.** У Савецкай Беларусі на асушанай балотняй плошчы ў 11 тысяч гэктараў арганізуюцца буйныя зернявыя саўгасы і калгасы.

Сялянства Беларусі ўдзельнічае ў асушцы балот сваімі сіламі.

**Групавыя сады.** У гэту восень у Б.С.С.Р. закладваюцца групавыя сады плошчаю 2200 гэк., з якіх: 150 гэкт. у саўгасах, 800 гэкт. у калгасах і 1125 гэктараў на сялянскіх пасёлках. Сады закладвуюцца гнёздавым мэтадам, блізка гарадоў, чыгунак і судаходных рэк. На гэту справу адпускаецца 22,500 руб. крэдытаў. Шчэпамі ўсе сады будуць задавольнены гадавальнікамі (садовымі школкамі) на Беларусі.

Сёлета з вясны пачалася работа па ўтварэньню каля Менску цэнтральнамі садова-гароднай базы на 150 гэкт.

Распачынаецца закладка пладовага выхавальніка, які будзе выпускаць па 100.000 шчэпаў у год. Цяпер пасаджана 125000 дзічак. Апрача таго будзе пашыраны матачны сад з 6-ці да 10 гэкт. і падрыхтоўвацца 20 гэк. для рэзьвядзеньня гароднага насеньня.

Па прыкладу цэнтральнай гароднай базы ўжо закладаюцца яшчэ 5 акруговых садова-гародных баз. якія павінны будуць выпускаць што год ад 50.000 да 100.000 штук шчэпаў, розных ягадных кустоў і гароднае насеньне.

**Новы тэхнікум калектыўнага земляробства.** Калегія Наркамсьветы сёлета адчыніла ў Каніцах, Магілёўскае акругі яшчэ новы тэхнікум калектыўнага земляробства.

**Каўбасная фабрыка.** У Менску будуецца каўбасная фабрыка, на што адпушчана 30.000 руб.

## Наша пошта.

Клімовічу. Школ такіх, дзе-бы вучылі дарма, ня ня ведаем, і сумліўна, каб яны і існавалі.

Якубу Грушніку. За камплектамі „Маланкі" і „Родных Гоняў" зьвярніцеся да беларускіх кнігарняў.

Кондрату. Выпісаць можна з садовага гадавальніка „Мазалёва", Вільня Завальная 6—2

Завіжанцу. Цікавячае Вас пытаньне зьмясьцілі у нумарох „Сахі" за 1927 год.

М. Карэтку. Зьвярніцеся да „Мазалёва".

І-в. Паўлюкевічу. Калі цётка Ваша набыла зямлю па даўнасьці, дык можа ёй распарадзіцца, як захоча.

Язэпу Якімовічу. Далі адказ поштай,

Я. Барану. Сьпешныя адказы даём поштай, калі будуць прыслана паштовая марка (25 гр.). У „Сасе" даём адказы на пытаньні, маючыя грамадзкае значэньне. Юрыдычныя парады ў гэтым нумары ня зьмяшчаем за бракам месца.

Рэдактар і Выдавец А. Уласаў.

## Цэны ў Вільні 26.XI-1929г.

| | |
|---|---|
| Жыта 100 кілёграмаў . . . . . . . . . . | 25.00—26.00 |
| Пшаніца „ „ . . . . . . . . . . | 37.00—40.00 |
| Ячмень „ „ . . . . . . . . . . | 24.00—25.00 |
| Авёс „ „ . . . . . . . . . . | 24.00—25.00 |
| Бульба „ „ . . . . . . . . . . | 7.00 — 8.00 |
| Сена . . . . . . . . . . . . . | 10.00—12.00 |
| Салома . . . . . . . . . . . . . | 8.00 — 9.00 |
| Мяса валоўе 1 кгр. . . . . . . . . . . | 2.00 — 2.40 |
| „ цяляціна „ . . . . . . . . . . . | 2.90 — 3.00 |
| „ бараніна „ . . . . . . . . . . . | 1.80 — 2.00 |
| „ сьвініна „ . . . . . . . . . . . | 2.80 — 3.20 |
| Саланіна „ . . . . . . . . . . . | 3.80 — 4.00 |
| Масла салёнае 1 кгр. . . . . . . . . . . | 5.40 — 6.00 |
| „ несалёнае „ . . . . . . . . . . . | 6.00 — 6.50 |
| Цыбуля „ . . . . . . . . . . . | 0.40 — 0.50 |
| Сьмятана 1 літр . . . . . . . . . . | 1.80 — 2.00 |
| Малако 1 „ . . . . . . . . . . | 0.40— 0.45 |
| Яйкі 10 шт. . . . . . . . . . . | 1.80— 2.00 |
| Яблыкі 1 сорт 1кгр. . . . . . . . . . . | 1.00 — 1.80 |
| „ 2 „ . . . . . . . . . . | 0.50— 0.80 |
| Грушы 1 кгр. . . . . . . . . . . | 1.00— 2.00 |
| Памідоры 1 кгр. . . . . . . . . . . | 0.70— 0.80 |
| Куры 1 штука . . . . . . . . . . | 6.00— 8.00 |
| Вуткі (качкі) . . . . . . . . . . . | 8.00— 9.00 |
| Гусі . . . . . . . . . . . . . . . . . | 18.00—20.00 |
| Індыкі „ . . . . . . . . . . . . . | 20.00—25.00 |
| Даляры Амэрыканскія | 8,87 — 8.91 |
| Залаты рубель | 4,65. |

---